№11 (174)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

**Жнівень 2014 г.**

## КАЛОНКА НАВІН

### У краіне

**Каждое четвертое промышленное предприятие Беларуси убыточно.**

По данным Национального статистического комитета РБ, чистый убыток, полученный убыточными предприятиями РБ, в январе—мае текущего года составил 6,67 трлн. BYR, что оказалось выше убытков за аналогичный период 2013 года в 2 раза.

Число убыточных организаций за рассматриваемый период выросло до 1326 с 818.

Таким образом, убыточным по итогам пяти месяцев 2014 года оказалось примерно каждая шестая организация из числа обследованных Национальным статистическим комитетом, тогда как по итогам аналогичного периода 2013 года убыточным было каждое десятое.

### У Прыдняпроўі

**Номинальная начисленная среднемесячная заработная плата** работников Могилевской области в I полугодии 2014 г. составила 5 069,5 тыс. рублей, в том числе в июне – 5 466,3 тыс. рублей, и увеличилась по сравнению с маем 2014 г. на 3,2%, или на 168,3 тыс. рублей.

Реальная заработная плата (заработная плата, рассчитанная с учетом роста потребительских цен на товары и услуги) в I полугодии 2014 г. по сравнению с I полугодием 2013 г. увеличилась на 0,9%, в июне 2014 г. по сравнению маем 2014 г. увеличилась на 2%.

### У раёне

**Бялыніцкая раённая выніковая педагагічная канферэнцыя** "Удасканаленне адукацыйнага працэсу праз падвышэнне прафесійнага майстэрства педагогаў" адбудзецца 29 жніўня 2014 года.

Канферэнцыя пройдзе ў памяшканні раённага Цэнтра культуры, распачнецца мерапрыемства ў 10-00.

Нагадаем, што ў школах Бялыніцкага раёна педагагічны працэс ажыццяўляюць 507 педагогаў

## ЧАМУ БЯЛЫНІЧАНЕ НЕ ХОЧУЦЬ ПРАЦАВАЦЬ?

***У бялыніцкім цэнтры занятасці насельніцтва існуе прапанова вялікай колькасці незанятых вакансій па розных спецыяльнасцях . Аднак бялынічане на гэтыя працоўныя месцы ўладкоўвацца чамусьці не вельмі спяшаюцца.***




Між тым спецыялісты адзначаюць, што ў Бялыніцкім раёне існуе вялікі працоўны рэсурс, які незадзейнічаны ў грамадскім сектары эканомікі раёна. Па ацэнках спецыялістаў з камітэта эканомікі Магілёўскага аблвыканкама, без усялякіх пытанняў дадаткова прыцягнуць у эканоміку Бялыніцкага раёна можна каля васьмісот чалавек, аднак людзі сюды ісці працаваць чамусьці не вельмі жадаюць. Паўсюдна ў раёне патрабуюцца прадстаўнікі разнастайных рабочых спецыяльнасцей, спецыялісты ў галіне сельскай гаспадаркі, сацыяльнай сферы, але шматлікія вакансіі застаюцца не занятымі.

Нашы слаўныя бялыніцкія ўлады часцяком вельмі здзіўляюцца, чаму ж так адбываецца, чаму фармальна не працуючыя людзі не хочуць працаваць у грамадскім сектары эканомікі раёна. Чэсна кажучы, мне нават смешна становіцца, - дарослыя дзядзі і цёці, а быццам бы не разумеюць элементарнага, - плаціць трэба лепш, тады і працаўнікі адразу знойдуцца.

Для прыкладу, па стане на 4 жніўня 2014 года на інтэрнэт-сайце Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь паведамляецца, што ў Бялыніцкім раёне маецца 45 вольных вакансій на якія патрабуюцца 86 чалавек. Здаецца, - ідзі і працуй, што яшчэ трэба для поўнага шчасця, але чаргі жадаючых уладкавацца на гэтыя працоўныя месцы не назіраецца.

Усе пытанні адразу ж здымаюцца пасля таго, як паглядзіш, колькі ж бялыніцкія прадпрыемствы і арганізацыі абяцаюць плаціць людзям за іх працу. Дык вось, шаноўныя чытачы, на заробак, большы за 3 мільёны рублёў, могуць разлічваць толькі 2 чалавекі – кіроўцу аўтамабіля ў

*(Заканчэнне на стар. 8)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# СТАРТ КАМПАНІІ ПА СТВАРЭННІ КЛАНА ЛАТЫФУНДЫСТАЎ У БЕЛАРУСІ

***14 ліпеня 2014 года Аляксандр Лукашэнка, прымаючы з дакладам прэм'ер-міністра, кіраўніка працоўнай групы па рэфармаванню сельскай гаспадаркі краіны, заявіў, што неэфектыўныя сельгаспрадпрыемствы будуць прыватызаваны ў выпадку, калі яны на працягу года не выйдуць на бязстратную працу.***

А 17 ліпеня ён падпісаў аж 4 указы, падрыхтаваныя працоўнай групай для рашэння праблемных пытанняў у аграпрамысловым комплексе.

Адзін з іх, Указ №349 " Аб рэарганізацыі калгасаў (сельскагаспадарчых вытворчых кааператываў)"вызначае, што калгасы (СВК) да 31 снежня 2016 года належаць да пераўтварэння ў гаспадарчыя таварыствы або камунальныя прадпрыемствы. Пры гэтым, пры пераўтварэнні калгасаў у гаспадарчыя таварыствы, долі ў статутных фондах гэтага таварыства размяркоўваюцца паміж фізічнымі асобамі – членамі пераўтвараемага калгаса і адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкай, на тэрыторыі якой ён размешчаны.

Такім чынам, пад выглядам "дабрачыннага" рашэння, на працягу двух з паловай год будуць ліквідаваны апошнія 347 яшчэ існуючых у Беларусі калгасаў. Напрыканцы 90-х гадоў мінулага стагоддзя ў нашай краіне дзейнічала больш за 2,5 тыс. сельгас прадпрыемстваў, з іх - каля 1,5 тыс. калгасаў.

Па словах міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Л. Зайца, Указ прэзідэнта па пераўтварэнню калгасаў спрасціць працэдуру продажу сельгаспрадпрыемстваў для прыцягнення інвестыцый. Дакумент створыць прававую нарматыўную базу для арганізацыі калгасамі новых суб'ектаў гаспадарання з мэтай "вываду іх на больш высокі ўзровень гаспадарання". Прыняццё такога дакумента, па словах міністра, вызвана яшчэ і тым, што на сённяшні дзень статуты калгасаў страцілі сваю значымасць і не адпавядаюць сучасным заканадаўчым нормам. Яны таксама ўваходзяць у супярэчнасць з Падатковым кодэксам.

На першы погляд, чытаючы падобныя рэляцыі, можа падасца, што беларуская дзяржава, беларускае чынавенства ўсяляк імкнуцца праявіць вялікі клопат аб сялянстве, аказаць яму неабходную падтрымку.




Але ж насамрэч гэта не так.

Адначасовым прыняццём ажно 4-х Указаў па сельскай гападарцы (чаго ў гісторыі Беларусі яшчэ не назіралася), кіраўніцтва краіны практычна ўзаконіла рабаўніцтва сялянства, якое працягваецца ў нашай краіне пад выглядам правядзення рэформаў ужо больш 10 апошніх год.

Больш дзесяцігоддзя ў нашай краіне пад выглядам рэфармавання сельскай гаспадаркі інтэнсіўна ідуць працэсы зліцця двух-трох суседніх гаспадарак у адну і перавод нováстворaных гаспадарак у гападаркі з новай формай ўласнасці. Былыя калгасы, саўгасы ператвараюцца ў ААТ (Адкрытыя акцыянерныя таварыствы), ЗАТ (Закрытыя акцыянерныя таварыствы), сельскагаспадарчыя кааператывы, якія надалей перадаюцца ў распараджэнне або ўласнасць новым гаспадарам..

Праз прыняццё новых заканадаўчых актаў, што не прадугледжваюць роўныя правы для грамадзян Беларусі па прыватнай ўласнасці на зямлю, як і ў гады існавання савецкай ўлады, беларуская дзяржава імкліва выбівае з селяніна апошнія рэшткі пачуцця ўласніка, гаспадара свайго жыцця.

Як і ў далекія 20-ыя, 30-ыя гады мінулага стагоддзя ў часы калектывізацыі , калі сялянства сілай пазбаўлялася прыватнай уласнасці на зямлю, на сродкі вытворчасці і заганялася ў калгасы, беларускія ўлады зноўку прымаюць рашэнні па рэфармаванню сельгаспрадпрыемстваў, нават не цікавячыся меркаваннямі сённяшніх калгаснікаў і бессаромна пазбаўляюць сялян іх калектыўнай уласнасці.

Як гэта ўсё адбываецца? Ды вельмі проста…

Разгледзім гэты працэс на прыкладзе былога калгаса імя М.В.Фрунзэ Шклоўскага раёна, землі якога размяшчаюцца ўздоўж аўтадарогі С.Пецярбург –Адэса.

Гаспадарка была створана ў далёкім 1929 годзе і заўсёды па выніках дзейнасці з'яўлялася адной з найлепшых у раёне. У 2002 годзе да яе быў далучаны суседні калгас "Запаветы Леніна". У 2003 годзе калгас быў пераўтвораны ў ЗАТ "Любініцкае".

Агульная плошча гаспадаркі склала 5602 га, з іх 5243 га –сельскагаспадарчыя ўгоддзі, у тым ліку ворыва – 4232 га. Агульная колькасць працуючых у гаспадарцы - 224 чалавекі.

У 2005 годзе пад выглядам "дабрачыннага ўчынка" - быццам бы з

*(Заканчэнне на стар. 3)*

# СТАРТ КАМПАНІІ ПА СТВАРЭННІ КЛАНА ЛАТЫФУНДЫСТАЎ У БЕЛАРУСІ

*(Заканч. Пачатак на стар. 2)*

мэтай выратавання былога калгаса і дапамогі былым калгаснікам, акцыі сельскагаспадарчага прадпрыемства ЗАТ "Любініцкае" набыло ААТ "Амкадор" з горада Мінск – буйнейшае на тэрыторыі СНД прадпрыемства па вытворчасці дарожнай і камунальнай тэхнікі . З гэтае пары сельгаспрадпрыемства стала называцца ЗАТ "Амкадор – Шклоў".

Такім чынам, у выніку, калгаснікаў былога калгаса імя Фрунзэ пазбавілі калектыўнай уласнасці на маёмасць – тэхніку, пагалоўе буйной рагатай жывёлы, свіней, вытворчых памяшканняў і г.д. Зроблена ўсё гэта было такім жа чынам (хоць гэта зараз выглядае і прыгажэй), як калісці гэта рабілі з іх дзядамі і прадзедамі ў далёкім 1929 г., заганяючы іх у калгас і пазбаўляючы прыватнай уласнасці.

Канчатковая ідэя ўсіх гэтых пераўтварэнняў, атрымаўшая па задумцы камбінатараў лагічнае завяршэнне, стала зразумелая толькі амаль праз восем год – 25 сакавіка 2013 года, калі на Беларускай валютна-фондавай біржы адбылася здзелка па продажы акцый ААТ "Амкадор". У выніку ўладальнікам 562 тысяч 457 акцый "Амкадора", што складае 53,64% статутнага фонду, стала наваполацкая кампанія ТАА "Інтэрсервіс", гаспадаром якой з'яўляецца Мікалай Варабей, прыбліжаны да А.Лукашэнкі.

Такім чынам, набыўшы кантрольны пакет акцый ААТ "Амкадор", М. Варабей стаў яшчэ аўтаматычна і "латыфундыстам" - ўладальнікам вялікага сельскагаспадарчага прадпрыемства з тысячамі гектараў зямлі. І гэта не адзіная здзелка па прыватызацыі сельскагаспрадпрыемстваў у Беларусі. Прыхаваныя працэсы "прыхватызацыі" маёмасці ў нашай краіне ідуць поўным ходам, прычым, нярэдка бывае, сапраўднага гаспадара вылічыць вельмі складана. Пры гэтым беларускае чынавенства імкнецца пераканаць усіх нас, што зямля ў прыватную уласнасць у Беларусі нікому не патрэбная.




Яшчэ больш нахабным вобразам абышліся з калгасам "1 Мая" Шклоўскага раёна , які тры гады таму назад быў далучаны да ААТ "Александрыйскае". На працягу двух дзён пасля ліквідацыі калгаса, у Александрыю была вывезена ўся жывела, тэхніка, абсталяванне…, а пасля на працягу двух месяцаў зліквідавана, зцёртая з твару зямлі вытворчая база былога калгаса. А былыя калгаснікі з гаспадароў ператварыліся ў нікому непатрэбных беспрацоўных.

Падобным чынам беларускае чынавенства распарадзілася і з іншымі гаспадаркамі, як, напрыклад, быў ліквідаваны калгас імя Леніна Бялыніцкага раёна – у свой час адна з найлепшых гаспадарак краіны.

Стан "жабрака", а не гаспадара на сваёй зямлі замацоўваецца беларускім чынавенствамі сярод сялянства яшчэ і праз мытарствы фермераў, праз навязванне думкі, што зямля беларускаму сялянству, як прыватная ўласнасць, нікому непатрэбна.

Такім чынам, рэпрэсуючы базавы ўласніцкі інстынкт беларускага сялянства, вышэйшае чынавенства краіны імкнецца дасягнуць адной мэты – здзейсніць у бліжэйшай перспетыве міжкланавую прыватызацыю зямлі…

***Намеснік старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў***

## БЯЛЫНІЦКІ РАЁН АДЗНАЧЫЎ СВАЁ 90-ГОДДЗЕ

Бялыніцкі раён быў утвораны ў 1924 годзе і ўвайшоў у склад Магілёўскай акругі БССР. Адбылося гэта 17 ліпеня. Размяшчаўся раён на плошчы 1430 кв. вёрст, дзе пражывала 48396 чалавек. Раён налічваў 17 сельсаветаў з 629 населенымі пунктамі. Па перапісу наступнага, 1925 года, у раёне мелася 378 рамесніцка – саматужных прадпрыемстваў, на якіх працавалі каля 130 рабочых. Лясоў у раёне было 22 тыс. дзесяцін, якія абслугоўваліся 6 лясніцтвамі. У мястэчках і вёсках налічвалася 62 школы, у тым ліку сямігодка і школа рабочай моладзі. Тым не менш 52 працэнты насельніцтва былі непісьменныя.

Сетка лячэбных устаноў складалася з райбальніцы, участковага ўрачэбнага пункта, 2 ФАПаў і аднаго ўрачэбнага пункта. У пяці спажыўтаварыствах – Бялыніцкім, Галоўчынскім, Высоцкім, Ігліцка – Студзенкаўскім і Эсьмонскім – аб'ядноўвалася каля 1000 пайшчыкаў.

Застаецца толькі нагадаць, што на пачатак 2014 года ў Бялыніцкім раёне пражывала 20 027 чалавек, у тым ліку ў сельскай мясцовасці - 9597.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# КАРУПЦЫЯ: МЯСЦОВЫ ЎЗРОВЕНЬ

***Карупцыя –выкарыстанне службовай асобай сваіх уладных паўнамоцтваў і давераных яму праў, а таксама звязаных з гэтым афіцыйным статусам аўтарытэту, магчымасцей, сувязяў у мэтах асабістай выгады, супярэчных заканадаўству і маральным устаноўкам. Карупцыяй называюць таксама подкуп службоўцаў і іх прадажнасць.***




Карупцыя мае даўнія карані, але раней на Беларусі яна не была такой масавай, як зараз. Разрастанне карупцыі да буйных памераў звязана з прыходам да ўлады аўтарытарнага кіраўніка, амаральных дзялкоў, нават былых крымінальнікаў. Добра засвоеныя злачынныя метады тут жа ўкараняюцца ў дзяржаўную сістэму, пераносяцца на грамадства. І хаця ў Беларусі прыняты Закон “Аб барацьбе з карупцыяй” (ад 20 ліпеня 2006 г.), які прызваны абараняць правы і свабоды грамадзян, эфектыўнасць яго дзеяння зведзена да своеасаблівага фільтра зарваўшыхся чынуш, якія вельмі ўжо хуткімі тэмпамі фармуюць асабісты дабрабыт.

Карупцыя наогул з’яўляецца сістэмным прадуктам грамадства, вынікам яго недастатковай прынцыповасці, а ў Беларусі і прадуктам дзяржаўнай палітыкі. Напрыклад: куды глядзіць дзяржава (і грамадскасць), калі кіраўнікі дзяржпрадпрыемстваў і спецыялісты, звязаныя з закупкамі сыравіны і матэрыялаў у прыватных фірм, маюць неблагія даходы ад самога факту закупак. І гэта не проста зайздрасць абывацеля. Такім чынам на дзяржаўныя прадпрыемствы паступае не заўсёды якасная прадукцыя. І пра якую канкурэнтаздольнасць большасці магілёўскіх вытворцаў можна ў гэтым выпадку весці гаворку? Бо вынікам гэтага своеасаблівага прыватна-дзяржаўнага партнёрства з’яўляюцца загружаныя склады дарагой і не зусім якаснай гатовай прадукцыяй. Пры гэтым невялікае кола мэнэджараў вядзе даволі шыкоўнае жыццё, а радавыя працаўнікі тыднямі чакаюць жабрацкага заробку. Дарэчы, электронныя таргі, абавязковыя для усіх дзяржаўных прадпрыемстваў, маглі б прынцыпова выправіць становішча. Найлепшы ж выхад з гэтага няпростага становішча – прыватызацыя дзяржмаёмасці.

Ці можна спадзявацца ў навядзенні парадку на эканамічнай прасторы вобласці на сілавыя структуры – органы МУС, КДБ, КДК, следчы камітэт? Так, але ж, напрыклад, справа “адкатаў” на дзяржпрадпрыемствах зайшла так далёка, што большасць “саплівых” маркетолагаў нават і не ўтойваюць свае “левыя” крыніцы ўзбагачэння. Ды і да саміх “барацьбітоў” ёсць пытанні: арыштаваны па артыкулу “карупцыя” “перавертні ў пагонах” з Клімавічскага РАУС, шклоўскі начальніка ДФР КДК, магілёўскі суддзя, якія самі павінны былі стаяць на ахове правапарадку.

Ёсць пытанні і да прыватнага бізнэсу, але ж ён працуе ў квазірынкавых умовах і не можа быць у дадзеным выпадку цывілізаваным. Таму ўсе спробы ўлад падвысіць эфектыўнасць эканомікі будуць разбівацца аб камяні своеасаблівых адносін “прыватнае-дзяржаўнае”.

Яшчэ больш “адкатная” хвароба распаўсюджана ў бюджэтнай сферы. Закупка абсталявання ў адукацыйныя і медыцынскія ўстановы (асабліва за валюту), іх капітальны рамонт – гэта бязмерныя магчымасці для чыноўнікаў, якія рэгулююць таварныя і фінансавыя патокі для забяспячэння іх функцыявання. Ды ці мала другіх магчымасцей у нячыстых на руку чыноўнікаў – ЖКГ, арэндныя адносіны, сельская гаспадарка.На пытанне, ці дазваляюць зараз супрацоўнікам сілавых ведамстваў правяраць начны развоз малочных і мясных прадуктаў па магазінах з адпаведных перапрацоўчых прадпрыемстваў, адказныя асобы разводзяць рукамі.

Вось таму і ўражанне, што ніхто зараз са злодзеяў-карупцыянераў нікога не баіцца і не зважае на маральныя нормы і грамадскую думку. Дзяржаўныя СМІ стараюцца абыходзіць шматлікія факты, суды над карупцыянерамі праходзяць у закрытым рэжыме.Агалосцы прыдаюцца толькі крымінальныя справы, якія выгадныя ўладзе. Нават кіраўнік дзяржавы, які раз пораз аб’яўляе барацьбу карупцыі, бяссільны ў гэтай справе барацьбы, не разумеючы, што самы надзейны заслон злодзеям можа паставіць толькі дэмакратычны дзяржаўны лад.

Як жа да карупцыйных праблем ставіцца мясцовая ўлада? У справаздачы Магілёўскага абласнога выканаўчага камітэта за 2012,2013 гады слова “карупцыя” не згадана ні разу, такія ж адносіны да карупцыйных

*(Працяг на стар. 5)*

# КАРУПЦЫЯ: МЯСЦОВЫ ЎЗРОВЕНЬ

*(Працяг. Пач. на стар. 4)*

праблем як у Магілёўскім гарвыканкаме, так і ў шклоўскіх вертыкальшчыкаў. Адзін раз пра карупцыю згадалі ў справаздачы прэзідыума абласнога Савета дэпутатаў – відаць і ў аблсавеце не вельмі шануюць гэту тэму.

Вось чаму ў тым ліку грамадскасць павінна больш крытычна адносіцца да тэмы карупцыі і шукаць прычыны замоўчвання праблемы выканаўчай уладай. Але можа з карупцыяй у Магілёўскай вобласці даўно пакончана ці ёсць дадатныя зрухі ў праваахоўных органаў? Не, гэта не так. Напрыклад, у 2012 гаду ў Магілёўскай вобласці выяўлена і пастаўлена на ўлік 209 злачынстваў карупцыйнага напрамку, не палепшылася становішча ў 2013 годзе – колькасць карупцыйных злачынстваў павялічалася на 30,5% у параўнанні з папярэднім годам і склала на 1,2% больш сярэдняга паказчыка па Беларусі. Ды і толькі за 5 месяцаў 2014 года выяўлена 101 карупцыйнае злачынства. Пры гэтым, абласная пракуратура канстатуе, што за апошнія 5 гадоў іх колькасць не памяншаецца. Яшчэ на слыху громкія затрыманні службовых асоб у Магілёўскай вобласці: генеральнага дырэктара “Крычаўцементашыферу”, галоўнага ўрача Касцюковічскай бальніцы, дырэктара “Магілёўдрэва”, заведзеная крымінальная справа на кіраўніка “Строммашыны”.




Але чаму мясцовая “вертыкаль” так індэферэнтна адносяцца да гэтай тэмы? Справа ў тым, што болей за траціну (35%) ад агульнай колькасці карупцыйных злачынстваў рэгіструецца ў сістэме органаў мясцовай улады і падначаленых ім структурных падраздзяленняў. А найбольшую ўдзельную вагу займаюць крадзяжы шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі (34%), дача хабару (33%), атрыманне хабару (11%), злоўжыванне ўладай (9%). Згадзіцеся, радаваму грамадзяніну ў радах карупцыянераў месца проста няма. Пры тым, як даводзяць чыноўнікі, найбольшая колькасць карупцыйных злачынстваў зарэгістравана ва ўстановах аховы здароўя і прамысловасці, а найменшае – у гандлі і адукацыі. Па другіх жа крыніцах якраз ва ўстановах адукацыі фіксуецца найбольшая колькасць карупцыйных злачынстваў, а ў гандлі іх значна больш, чым у ахове здароўя і на транспарце. Па ўсяму выходзіць, што якраз сацыяльны і гаспадарчы механізмы выступаюць генератарамі карупцыі, ў той жа час з’яўляючысь выніковымі інстанцыямі ў рэгіянальнай эканамічнай сістэме.

І зноў жа, найбольш карумпаванымі сферамі ў Рэспубліцы Беларусь з’яўляюцца будаўніцтва, размеркаванне зямельных надзелаў, хімічная прамысловасць і ўжо памянёныя ўстановы адукацыі і аховы здароў’я. Чамусьці ў Магілёўскай вобласці на першыя тры складнікі рэйтынгу не звяртаецца ўвагі. Можа на гэта ёсць свае прычыны, дык на іх трэба акцэнтаваць увагу грамадства, каб не было крыватолкаў. Бо і так хапае розных здагадак па крымінальным дзеянням мясцовых чыноўнікаў. Напрыклад, чамусці не расследуюцца громкія справы нават у Шклоўскім раёне – справа былога начальніка райсельгасхарчу па крадзяжы 4,2 млн. еўра, “калійная справа”, чарга правапарушэнняў у жылкамунгасе, па якіх былі заведзены крымінальныя справы, але злаўмыснікі да гэтага часу не толькі на свабодзе, але і займаюць даволі “хлебныя” месцы.Спусцімся на больш ніжэйшы ўзровень – грамадскасць вельмі цікавіць факт знішчэння ўстановы культуры ў вёсцы Бушлякі Шклоўскага раёну. А таксама, чаму быў разбураны і куды знік добротны будынак мясцовага сельскага клуба. Без карупцыі, мабыць, не абышлось, бо, каб ліквідаваць адзінае месца ў вёсцы для правядзення досуга насельніцтва і масавых мерапрыемстваў уладных структур, трэба мець вельмі дужыя падвязкі ў мясцовай вертыкалі.І не толькі на мясцовым узроўні, бо як расцаніць той факт, што сёння ў Шклоўскім райвыканкаме па-ранейшаму працуюць тры службовыя асобы, якія здзейснілі крымінальныя злачынствы карупцыйнага характару: садзейнічанне крадзяжу сродкаў жыллёвага кааператыву і незаконная пастаноўка сваякоў на ўлік на жыллё. Выратаваць гэтых злодзеяў можа толькі вышэйшая ўлада Беларусі, магчыма, нават, трэба ўмяшальніцтва самога Прэзідэнта. А гэта ўжо ні ў якія вароты не лезе. Але будзем спадзявацца, што паважаны Аляксандр Рыгоравіч разбярэцца са шклоўскімі “жабракамі” па ўсёй строгасці закона.

Сучасныя выклікі гавораць аб усё новых спосабах прысабечвання чужой маёмасці, асабліва чыноўнікамі, якія стаяць на перакрыжаванні фінансавых і таварных патокаў. Але ж для Беларусі ў цэлым мажлівы і зусім кепскі сцэнар – на фоне безвынікоўнасці аграрнай палітыкі і неразумення перспектыў рынкавай эканомікі

*(Заканчэнне на стар. 7)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ТРОШКІ ПРА “РУССКОЯЗЫЧНЫХ”…

***Прыйшлося апошнім часам некалькі разоў апынуцца ў асяроддзі студэнцкай моладзі. Першы раз гэта былі студэнты сельскагаспадарчай акадэміі, якія праходзілі працоўную практыку ў мясцовай гаспадарцы. Як былому выхаванцу гэтай славутай навучальнай установы, мне вельмі цікава была паразмаўляць з прадстаўнікамі сучаснага пакалення будучых майстроў сельскагаспадарчай вытворчасці. Але пачуўшы размову студэнтаў, цікавасць хутка змянілася разчараваннем. Амаль кожны сказ гэтыя маладыя людзі суправаджалі такім “отборным матам”, які ці заўсёды яшчэ давядзецца пачуць у месцах зняволення.***

Напачатку меркавалася, што гэта брыткаслоўе - вынік сумеснай працы студэнтаў з вясковымі механізатарамі. Але праз пэўны час я звярнуў увагу ўжо на тое, як на працоўнай практыцы, будучыя педагогі “выхоўвалі” дзетак дашкольнага ўзросту. І зноў, калі-нікалі, ў гэтых “выхавальніц” праслізвала “салёнае” слоўца. Больш таго, як толькі ў дзяўчат з’яўлялася вольная хвілінка, яны імгненна збіраліся разам і пачыналі карцёжную гульню.




Напэўна, такіх выпадкаў зараз можна прывесці шмат. Размаўляючы з выкладчыкамі вышэйшых навучальных устаноў я таксама пачуў і ад іх, што гэта з’ява - “амаль норма” сярод сучаснай моладзі.

Гэта жах! Чаму такі заняпад агульна-культурнага ўзроўня моладзі?

Доўгі час у Савецкім Саюзе будавалі “светлую будучыню”, якая атрымала навуковую назву камунізм. Будавалі вельмі складана, з “ошибками” і “перегибами”, адначасова загубіўшы ў выніку гэтых “перегибов” вялікую колькасць народу. Шмат народа высялялася з родных мясцін і прымусова накіроўвалася ў іншыя рэгіёны. Пры гэтым руйнаваліся шматвяковыя традыцыі, звычаі, парушаўся прынцып пераемнасці. Людзей прымушалі працаваць выключна “дзеля камуністычнай будучыні”, аднолькава сябе паводзіць і апранацца, святкаваць і паміраць. Нават думаць і размаўляць павінны былі ўсе на адной мове. У гэтых умовах, разам з парткамамі, прафкамамі і камітэтамі камсамола дзесяцігоддзямі людзей “перавыхоўвалі” і яны станавіліся насельніцтвам “без рода і племені”. У папулярнай песні 70-х гадоў нават былі такія слава: “Мой адрес не дом и не улица, мой адрес Советский Союз»…

У студзені 1959 году на прыёме ў гонар 40-годдзя БССР, на які прыехаў тагачасны лідэр СССР Мікіта Хрушчоў, першы сакратар ЦК КПБ К. Мазураў выступіў з прамовай на беларускай мове. Хрушчоў абурыўся, чаму выступ быў не па-расейску і выказаўся: **“Чым хутчэй мы ўсе загаворым па-расейску, тым хутчэй пабудуем камунізм”.**

Камунізм пабудаваць не атрымалася, а потым распаўся і Савецкі Саюз. Але намаганні прыхільнікаў камуністычнай ідэі не зніклі. На прасторах былой імперыі замест савецкага народа з’явілася новая з’ява – “русскоязычное население”. Узровень нацыянальнай свядомасці гэтай часткі насельніцтва амаль нулявы. Яны так і не сталі ні рускімі, ні украінцамі, ні беларусамі. У лепшым выпадку гэта насельніцтва па-ранейшаму будуе “светлую будучыню”. Нацыянальная ідэнтычнасць, годнасць за сваю нацыю і, адпаведна, за Радзіму ў большасці гэтага насельніцтва адсутнічаюць. У гэтым асяроддзі шчыра захапляюцца размовамі пра “вельмі добрае жыццё ў Маскве”, або яшчэ недзе “за бугром” і пануе моцная надзея на нейкае цуда, на тое, што “нехта” паклапціцца пра іх асабісты лёс.

Апошнім часам крамлёўскія кіраўнікі схамянуліся і пачалі ратаваць гэтых “няшчасных” людзей ад разнастайных “нацыяналістаў”. А на самай справе, гэта ранейшая імперская палітыка, якую Масква праводзіць у дачыненні да “не русских” народаў ужо некалькі стагоддзяў. Толькі у апошнія дваццаць гадоў з гэтай нагоды “гарачыя кропкі” узнікалі ў Прыбалтыцы, Малдове, Грузіі і зараз успыхнулі ў Украіне.

Калі некалі ў Расійскай імперыі выкарыстоўваўся метад знішчэння

*(Заканчэнне на стар. 7)*

# ТРОШКІ ПРА “РУССКОЯЗЫЧНЫХ”…

*(Заканч. Пачатак на стар. 6)*

беларусаў і украінцаў па рэлігійнаму прынцыпу: праваслаўны – рускі, каталік – паляк, дык зараз маскоўскія “мечтатели” выкарыстоўваюць трохі іншы падыход: “русскоязычный” – патрыёт, размаўляе чалавек на беларускай, або украінскай мове – нацыяналіст, апазіцыянер і ў апошні час “бандэравец”.

Але намаганні маскоўскіх стратэгаў спрацоўваюць усё слабей. Мой знаёмы журналіст амаль кожны год адпачывае на Захадзе Украіны. На маё пытанне, менавіта чаму яму там падабаецца, адказаў, што гэта ў тым ліку і таму, што там не чуваць брыдкаслоўя.

Ну а што Беларусь? Беларусы найбольш былі русіфіцыраваны падчас “будаўніцтва светлага будачага” і зараз “русскоязычные” складаюць большасць насельніцтва Беларусі. Вось і прыходзіцца іншы раз чуць ад асобных нібыта беларусаў: “Н…й (навошта) мне гэты беларускі язык. Я што, паеду ў Маскву і буду там гакаць?”

Аднак час імклівы ідзе. Працэс нацыянальнага абуджэння, які пачаўся ў беларусаў ў другой палове 19-га стагоддзя, вельмі паступова, але няспынна рухацца наперад, і спыніць яго ўжо немагчыма. Вось толькі адзін прыклад апошняга часу: усё больш студэнтаў абараняюць сваі дыпломы на беларускай мове. Газета “Наша Ніва” (№24 ад 25 чэрвеня г.г.) піша пра чарговы такі выпадак. “Праект станцыі Кавальская Слабада Мінскага метрапалітэна” пяцікурсніка Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта Якуба Трафімовіча (факультэт транспартных камунікацый) абаронены па-беларуску і будзе рэалізоўвацца на практыцы. На пытанне карэспандзента, як выкладчыкі прынялі беларускамоўны праект, Якуб Трафімовіч адказаў: “Напачатку былі пытанні. Маўляў, ніколі такога не было на спецыяльнасці (але ва ўніверсітэце гэта не першы выпадак). У выніку ўсё прайшло выдатна. Пытанні стараліся задаваць па-беларуску. За дыплом я атрымаў 9 балаў”. Раней беларускамоўныя абароны таксама адбыліся ў Эканамічным універсітэце і Гомельскім тэхнічным універсітэце.




І нарэшце галоўнае. Аднойчы, у прыватнай размове, адзін вядомы беларускі літаратар мне распавядаў, што заўсёды інтэрв’ю, або іншыя афіцыйныя размовы ладзіць выключна на беларускай мове. І гэта не толькі таму, што ён беларускамоўны аўтар. Але таксама і таму, што размаўляючы па-беларуску ніколі не праслізне брыдкае слоўца. Перафразоўваючы расійскага паэта Уладзіміра Маякоўскага, які пісаў: “Я русский бы выучил только за то, что им разговаривал Ленин”, таксама можна сказаць: “Я мову бацькоў вывучаю таму, што няма ў ёй брыдкаслоўя”.

Як сцвярждаюць гісторыкі, брыдкаслоўе прыйшло на старажытную Русь падчас татара-мангольскага нашэсця. Таму каб быць па-сапраўднаму вольным еўрапейскім народам, беларусам, на шляху свайго адраджэння, трэба вызваляцца і ад гэтай татара-мангольскай спадчыны!

***Аляксандр Грудзіна***

## КАРУПЦЫЯ: МЯСЦОВЫ ЎЗРОВЕНЬ

*(Заканч. Пачатак на стар. 4, 5)*

эканомікі чыноўнікі паспрабуюць рознымі шляхамі прыватызаваць зямлю і асноўныя сродкі сельскагаспадарчай вытворчасці, якія зараз знаходзяцца ў распараджэнні дзяржавы. Відавочна, што гэта будзе рабіцца не на карысць дзяржавы, а зусім наадварот, што можа прывесці да катастрафічных наступстваў для радавых грамадзян. І мы ўсёй грамадой павінны стаць на шляху ліхвярства з боку цяперашняй улады, раскрываць даступнымі метадамі іх намаганні па вываду каштоўнасцяў у сваю карысць, крадзяжы, а то і крымінальныя дзеянні, такім чынам, садзейнічаць росквіту Радзімы.

***Пётр Мігурскі***

## АНДРЕЙ МАКАРЕВИЧ ОДОБРИЛ СДЕЛАННЫЙ БЕЛЫНИЧСКИМ МУЗЫКАНТОМ ПЕРЕВОД СВОИХ ПЕСЕН НА БЕЛОРУССКИЙ

***Лидер легендарной российской рок-группы «Машина времени» Андрей Макаревич с интересом выслушал белорусские версии своих песен, созданные музыкантом из г.п. Белыничи Могилевской области Юрием Нестеренко, и дал добро на их использование.***

— У Макаревича есть генетическая привязка к Беларуси и по отцовской, и по материнской линии. И он всерьез заинтересовался своими корнями, приезжал в деревню Павловичи на Березовщину, откуда происходит его род, - отмечает Юрий Нестеренко.

Интерес Макаревича к своим корням и стал поводом для перевода его текстов на белорусский язык. По-белорусски зазвучали песни «Каждый правый», «Снег», «Не дай мне упасть», «День гнева», «Звезды не ездят в метро» и другие произведения.

Нестеренко и Макаревич встречались лично. Лидеру «Машины времени» переводы его песен на белорусский язык понравились.

— Конечно, объективно эти тексты Андрей Вадимович оценить не мог, но внимательно ознакомился и, самое главное, услышал, как они звучат. И дал добро на их исполнение и использование. Даже сам предложил продолжение в виде издания песен, – рассказал Юрий Нестеренко порталу tuzin.fm.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# З ГІСТОРЫІ КАСЦЁЛА Ў БЯЛЫНІЧАХ

***Каталіцкі касцёл на бялыніцкай зямлі існаваў ужо ў 1579 годзе — княгіня Анастасія Мсціслаўская ў даравальнай грамаце Бялынічей і Цяцерына троцкаму ваяводу Стэфану Збаражскаму ўзгадвае „костел закону римского".***

Леў Сапега, канцлер Вялікага Княства Літоўскага, заснаваў у Бялынічах кляштар кармелітаў у 1624 годзе.

З 1634 годзе вядомы абраз Маці Божай у нававыбудаваным драўляным касцёле. Ці быў ён ад пачатку цудоўным альбо вельмі старадаўнім? - але ўжо ў 1641 годзе ягоная копія знаходзілася (і знаходзіцца да сённяшняга дня) у Варшаве, на Лешне.

Падчас расейскага наступлення 1654 года Абраз быў вывезены Сапегам да ягонага замку ў Ляхавічах. Толькі ў 1761 годзе вярнуўся у Бялынічы, ў нававыбудаваны каменны касцёл, дзе з папскага дазволу на галавы Маці Божай і Езуса кароны ўклаў 20 верасня 1761 годзе (паводле старога стылю) смаленскі біскуп Юры Гыльзен. Звярніце, калі ласка, ўвагу на форму гэтых каронаў – гэта вялікакняжацкія шапкі!

Пасля раздзелаў Рэчы Паспалітай (а ў 1772 годзе Бялынічы апынуліся на самім кардоне, адкуль і назовы навакольных вёсак – Кардон, Мяжонка, Рубеж і інш.) горад быў пазбаўлены права на самакіраванне. Нейкія настойлівыя мяшчане, што накіроўваліся нават да Пецярбурга з прашэннем вярнуць ім гарадскія правы, былі ў 1828 годзе сасланы ў Сібір! Нават выява гербу была згублена і не знайшлася да сённяшняга дня – усяго некалькі такіх гаротных гарадоў у Беларусі. Але дзякуючы таму ў новым гербе знаходзіцца Маці Божая Бялыніцкая.

12 красаваіка 1876 года царскія ўлады пасля 40-гадовай прапагандыстскай падрыхтоўкі забралі касцёл у католікаў і перадалі яго праваслаўным.



У нашым краі акрамя засценковай „падруцкай" (па рацэ Друцці – ад Друцка праз Круглае, Бялынічы, Быхаў да Рагачова) шляхты жылі вялікія магнаты – князі Друцкія і Агінскія. Гэтым апошнім пасля Сапегаў належылі Бялынічы. Так што можна лічыць. Што Міхал-Клеафас Агінскі свой паланез „Развітанне з радзімай" напісаў менавіта пра бялыніцкі край!

Страціўшы бялыніцкі касцёл, каталікі пабудавалі ў 1903 годзе новы, у аддаленых на 10 кіламетраў Свяцілавічах. Але пасля выгнання адтуль апошняга ксяндза ў 1928 годзе савецкая улада забрала і гэты храм. У 1960-тыя гады быў узарваны вялічыны касцёл і кляштар у Бялынічах.

У 1993 годзе Бялыніцкая парафія адрадзілася.

***Паводле mohylev-katolik.by***

## ЧАМУ БЯЛЫНІЧАНЕ НЕ ХОЧУЦЬ ПРАЦАВАЦЬ?

*(Заканч. Пачатак на стар. 1)*

аўтапарку №7 абяцаюць плаціць тры з паловай мільёны рублёў, і эканамісту ў цэнтры занятасці 3 200 000.

Яшчэ адзінаццаць чалавек могуць спадзявацца на заробак у памеры, перавышаючым два мільёны рублёў – адпаведныя вакансіі ёсць у Бялыніцкім райвыканкаме, тым жа цэнтры занятасці, жылкамгасе, домеінтэрнаце для састарэлых і інвалідаў, АТП-7.

Ну а 73 шчаслівыя бялынічане могуць уладкавацца на працоўныя месцы з заробкам да двух мільёнаў рублёў уключна, менавіта такія вакансіі прапануюць абсалютная большасць бялыніцкіх прадпрыемстваў і арганізацый. У тым ліку і такія "флагманы", як ПМК-241, раённы вузел сувязі, ДЭУ-74, Бялыніцкая аўтакалона і г. д. Застаецца толькі здагадвацца, чаму гэта не ламануліся туды на працу стройнымі шэрагамі радасныя жыхары нашага раёна (прабачце, паважаныя чытачы, гэта такі ў мяне "чорны" гумар).

Як можна пражыць чалавеку, атрымліваючы заробак у два мільёны рублёў і маючы пры гэтым на ўтрыманні дзяцей, ведаюць толькі нашыя мудрыя статыстыкі, якія вызначылі бюджэт пражытачнага мінімума з 1 жніўня ў памеры 1 343 420 рублёў. Ну, магчыма, яшчэ і нашы слаўныя чыноўнікі, якія здзіўляюцца, чаму ж людзі не хочуць працаваць на такой "шыкоўнай" працы. Праўда, дзетак сваіх любімых і ўнучыкаў яны працаўладкоўваюць чамусьці ў зусім іншыя месцы…

Застаецца нагадаць паважаным чытачам, што, згодна дадзеных мудрых статыстыкаў, сярэдні заробак у чэрвені ў нашай краіне быў у памеры 6 198 540 рублёў.

А жыхары ж Бялыніччыны таксама людзі і таксама жывуць у квітнеючай краіне пад назвай Беларусь. Ці не так?

***Іван Барысаў***

## Воруют велосипеды

24 июля от детского отделения Белыничской ЦРБ по ул. Оборонной у местной жительницы, 1979 г.р., похищен велосипед. ООПП установлено, что велосипед похитил неработающий ранее судимый житель д. Отверница, 1964 г.р. Похищенное изъято. 29 июля СК возбуждено уголоное дело по ст. 205 ч. 2 УК (Кража), сообщает uvd.mogilev.by.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем выдаўца газеты.

Адрас рэдакцыі: 213173, Бялыніцкі раён, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 05.08. 2014 г. у 11-00.